# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1678) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 10 ЛІПЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.


ВЯРТАЕМСЯ ДА НАРОДНАГА

## УСЁ, ШТО СЭРЦУ БЛІЗКАЕ

Адной з форм вяртання да народнага з нашага шэрага, будзённага, апраўленага ў тэхнічныя і цывілізацыйныя рамкі жыцця з'яўляецца любоў да народных песень, супольнага традыцыйнага народнага спявання, удзел у мастацкіх калектывах.

Ёсць людзі, якія вынеслі з бацькоўскага дому пэўны запас прывязанасці да ўсяго свойскага, роднага. Такія людзі шукаюць праяўлення сваіх пачуццяў на ніве беларускай культуры.

Любу Гаўрылюк не трэба прадстаўляць у нашым беларускім асяроддзі. Яна, як салістка і ў дуэце з дачкой Алай, нязменна займае першыя месцы ва ўсіх конкурсах беларускай песні. Яе голас мы часта чуем у беларускіх перадачах Польскага Радыё. А сама Люба нядаўна паказала мне вельмі дарагі ёй і цікавы для нас дакумент — падзяку Беларускага таварыства з датай 19 лістапада 1963 года за ўдзел у конкурсе і найлепшае выкананне беларускай песні. Падпісана падзяка сакратаром ГП БГКТ Уладзімірам Юзвюком і старшынёй ГП БГКТ Міхасём Хмялеўскім. Гэты гістарычны ўжо сёння дакумент сведчыць аб тым, як даўно ўжо праводзяцца ў нас конкурсы беларускай песні, а таксама аб тым,

(Працяг на стар. 5)



*Члены хору беластоцкага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства Валянціна Ласкевіч і Хведар Арцішэўскі ў новых беларускіх уборах, якія робіць сабе калектыў.*

**Фота Я. Чэрнякевіч.**




## АБ АДНЫМ ПІСЬМЕ

Разглядаючы змест інфармацыі рэд. Міхася Хмялеўскага пра канферэнцыю БГКТ у Беластоку, апублікаваную ў „Ніве" № 17 з 24 красавіка г.г., члены праўлення Варшаўскага аддзела БГКТ зацікавіліся заўвагамі на тэму артыкула Яўгена Вапы, змешчанага ў „Сустрэчах" № 7 пад загалоўкам „Чаму так сталася?" Я. Вапа запытвае, якой фактычна ідэяй кіраваўся Прэзідыум ГП БГКТ у 1971 годзе, калі выступіў лістам з дня 28 кастрычніка 1971 года, падпісаным Янкам Зенюком і Міхасём Хмялеўскім, да Міністра асветы ПНР з прапановай ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання на Беласточчыне.

Сквітаванне М. Хмялеўскім гэтага пытання адным лаканічным сказам: „Няпраўдзівае абвінавачанне цалкавіта абвяргнулі ў сваіх выступленнях старшыня ГП д-р Аляксандр Баршчэўскі і яго намеснік д-р Янка Зенюк" — па сутнасці нічога не высняе.

Яўген Вапа спасылаецца ў сваім артыкуле на канкрэтны дакумент, прыводзячы яго змест у дакладным перакладзе на беларускую мову.

Лічым немагчымым, каб д-р габ. Аляксандр Баршчэўскі мог заангажаваць свой аўтарытэт дзеля запярэчання гэтым фактам.

Чытачы „Нівы", што гэтых фактаў не ведаюць, могуць на аснове інфармацыі М. Хмялеўскага ацаніць артыкул Я. Вапы як спробу паклёпу і страціць давер да Рэдакцыі „Сустрэч". Цытаваную фармуліроўку М. Хмялеўскім можна зразумець і так, што А. Баршчэўскі і Я. Зенюк не пярэчыць самому факту пісьма з 28 кастрычніка 1971 года Міністру асветы, але выказалі погляд, што не можна яго разглядаць як прычыну абвінавачання.

Гэта ўжо іншая справа і залежыць яна ад пункту гледжання. Дзеянне тагачаснага кіраўніцтва ГП БГКТ, аб якім гутарка, у перакананні адных заслугоўвае крытычнай ацэнкі, паводле іншых можа лічыцца заслугай.

У кожным выпадку Праўленне Варшаўскага аддзела БГКТ перакананы ў тым, што праблема гэтая занадта важная, каб яе

(Працяг на стар. 5)

РАСКАЗВАЕ ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

## ЗМАГАРЫ ЗА РОДНАЕ

У групе беларускіх пісьменнікаў — гродзенцаў, якія з нагоды юбілею літаратурнага аб'яднання „Белавежа" наведалі Беласточчыну, была выдатная паэтэса Данута Бічэль-Загнетава. Нарадзілася яна ў вёсцы Біскупцы, Лідскага раёна на Гродзеншчыне, па адукацыі — філолаг, шмат гадоў вучыла дзяцей беларускай мове і літаратуры, цяпер яна загадчыца Дома-музея імя Максіма Багдановіча ў Гродне.

У гэтым годзе споўнілася ўжо 30 гадоў яе літаратурнай працы. Творчы пасаг у Д. Бічэль-Загнетавай вельмі ж багаты. Апошняй кніжкай, якая з яе прозвішчам нядаўна трапіла ў рукі чытачоў, з'яўляецца аднатомная падборка лепшых твораў, напісаных у розныя гады яе творчасці. Кніжка называецца „Даўняе сонца".

— У Беластоку я першы раз, — са шкадаваннем гаварыла Данута Бічэль-Загнетава. — Але адчуваю сябе сярод вас, як дома, як у сябе на роднай Гродзеншчыне. Мы ж — неад'емныя часцінкі аднаго старажытнага племені — беларускага народа. І ў вас, і ў нас разгортваецца ды пашыраецца змаганне за адраджэнне сваёй нацыі, за годнасць беларуса сярод іншых народаў. Чалавек не можа быць інтэрнацыяналістам, калі ён з пагардай адносіцца да свайго народа.

Гэты патрыятычны адраджэнскі рух заснаваўся цалкам неафармальна, перш за ўсё ў асяроддзі студэнтаў і маладой беларускай інтэлігенцыі. Моладзь, бачыце, — працягвала пісьменніца, — неяк зараз сама навучылася аб'ядноўваць свае сілы і імкненні. І ў Беластоку, і ў Варшаве, і ў Мінску ці ў Гародні, а таксама і ў Наваполацку, Віцебску, Оршы ды ў многіх іншых гарадах і мясцінах Беларусі знаходзяцца маладыя людзі, якіх хвалюе пытанне далейшага лёсу сваёй нацыі, што з намі будзе, што будзе з нашай мовай? Яны неяк ужо дамовіліся між сабою, а да іх далучаецца ўсё больш і больш свядомых беларусаў, у сэрцы якіх захавалася яшчэ хоць крапелька нацыянальнага пачуцця. Вось і паяві-

(Працяг на стар. 6)

# ПАДСЛУХАНАЯ РАЗМОВА

Стаяў я ў калейцы па мяса (не сабе мяса, бо не маю картак), а за мною двое мужчын, і яны вялі гутарку, як цяжка цяпер на вёсцы знайсці маладому хлопцу жонку, бо дзяўчаты не хочуць у гноі грэбацца і кароў даіць ды свіней карміць. Кажа адзін так: „Вазьміце хаця б нашага Міхася: аддаў я яму гаспадарку, даведзеную да парадку, усе машыны мае і кароў даілкаю доіць, і бядак мучыцца, бо няма ахвотнай дзеўкі выходзіць за яго замуж. Пакуль што я яму дапамагаю, але што будзе далей, калі ўжо не дам рады дапамагаць? Пэўна і ён пакіне гаспадарку".

А другі з мужчынаў кажа так: „Але ж паглядзі ты на нашага Лявона: таксама круціцца, каб дзе жонку знайсці сабе ў памочніцы на гаспадарцы, і ўсё дарма. Знайшоў быў адну дзяўчыну, а тая кажа Лявону: кідай гаспадарку, пераязджай жыць у горад, тады і пайду за цябе. Як ведаеш, прыехала на свята Люська да бацькоў, яна ад малых гадоў вучылася ў Беластоку і пачала працаваць афіцыянткаю. Ёй заробленых грошай не хапала, а бацькі не хацелі дапамагаць, бо не мелі з чаго, то Лявон і падбухторыў яе на замужжа. Хуценька вяселле справілі. Наш Лявон пачаў інакш хадзіць, задаволены, што ў яго нарэшце ёсць жонка. Чаму ж, добра. Акуратная, чысціню любіць, але вось з гатаваннем ежы ёй не ўдаецца, Лявон дапамагае. Пасля вяселля завёў ён яе ў хлеў паказаць, як кароў даіць, і як свіней карміць. Лявон высыпаў з парніка бульбу і таўчэ, і размешвае, і разносіць гэтым свінням. А потым кажа: „Бяры так і ты рабі". Яна ўзялася даіць карову, а папяросу з зубоў не выкінула (я забыўся дадаць, што яна курыць). Не будзе з яе гаспадыні. Больш нікому не хачу гэтага казаць, каб плётак не нарабіць ды калатні ў сям'і. Лявон, як рабіў усё сам, так і робіць. А Люська ўжо з жыватом ходзіць і што ні дзень ездзіць па дахтарах і стогне, што хворая. А я так думаю: што ж гэта будзе пасля, калі яна народзіць? Яшчэ трэба будзе маёй сыновай няньку гадзіць. Ды адкуль жа будзе яе ўзяць?".

**Эдвард Шчасновіч**

# УСЁ, ШТО СЭРЦУ БЛІЗКАЕ

**(Працяг са стар. 1)**

колькі гадоў ужо Люба Гаўрылюк з'яўляецца зоркай нашай беларускай эстрады.

За гэтыя гады маладая дзяўчына з Трасцянкі пераехала жыць у Беласток, выйшла замуж, выгадавала дзве дачкі і сына, якія таксама спяваюць і граюць на розных інструментах і праславілася не толькі на сцэне, але і сярод знаёмых і суседзяў. Усе вакол Гаўрылюкоў ведаюць, што ніхто так не заспявае на сямейных урачыстасцях, як Люба са сваімі дзяўчатамі. Куды б іх не запрасілі, яны кожнае застолле ператвараюць у канцэрт беларускай песні.

— Я сябе не ўяўляю без спявання, — прызнаецца сёння Люба. — Нават на лавачцы пры блоку мы любім паспяваць.

У маладыя гады запрашалі Любу спяваць у „Курпі зялёныя" і ў клуб ТППР. Але яе цягнулі да сябе беларускія песні.

— Я беларуска, — кажа яна, — і свайго трымаюся.

Песні прынеслі Любе славу, узнагароды, прызнанне. Але мала хто ведае, што ў Любы залатыя рукі. За што ні возьмецца, выканае цудоўна. Колькі сябе памятае, заўсёды вышывала, гафтавала, шыдэлкам выраблялe карункі. Ва ўзорах мела свае ўласныя помыслы, цікавыя выдумкі, вельмі добры мастацкі густ. Шмат навучылася ад маці. Але мама яе Аляксандра Мінько, простая вясковая жанчына, вышываць не займаецца. Любіць ткацтва. Колькі яна за сваё жыццё выткала плахт, посцілак — цяжка сказаць. Вядома толькі, што кожнай са сваіх пяці дачок дала яна ў пасагу па пяць розных плахтаў. Люба з вялікім гонарам паказвае падораныя ёй плахты — ваўняныя і льняныя: зялёная — у ружы, аранжавая — у пеўнікі, фіялетавая — у кветкі-браткі, карычневая — у геаметрычныя ўзоры, а таксама бежавая — у тыповую народную пераборку. Люба ж занялася вышываннем і іншым рукадзеллем. З-пад яе рукі выйшлі прыгожыя абрусы і сурвэткі, падушачкі і дыванікі, сукенкі і блузкі для дзяцей. Да сёння Люба перахоўвае дзіцячы свэтрык з вышытай казкай пра рэпку. Ёсць там і рэпка, і дзедка, і цэлы шнур яго памочнікаў. Такі свэтрык хацела б мець кожнае дзіця.

Першыя беларускія касцюмы пачала Люба рабіць для сябе і свайго калектыву. У зробленых ёю белых вышываных сукенках танцавалі ў 60-ыя гады дзяўчаты з „Лявоніхі". Калі стварыўся калектыў „Каласкі", Люба вышывае ўсім удзельнікам камізэлькі і фартушкі. Ад таго часу знаёмыя добра ведаюць пра ўмелыя Любіны рукі і шукаюць у патрэбе яе дапамогі. 20 беларускіх блузак вышыла яна для душпастырскага маладзёжнага хору, ды яшчэ, мабыць, з дзесяць, на просьбы знаёмых.

Цяпер беласточкі хор, які працуе пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы, рыхтуе сабе новыя касцюмы. Жанчыны ўзяліся самі зрабіць сабе вельмі багата вышытыя блузкі, фартушкі і апаскі на галовы, а мужчынам — кашулі і світкі. Вышываюць усе, хто ўмее, для сябе і для сяброў. Кіруе ўсёй велізарнай гэтай працай Люба. Сама ўзяла сабе найбольш складаную работу — фартушкі. Яны зверху донізу вышываны чырвоным і сінім крыжыкам у геаметрычныя ўзоры ды яшчэ аздоблены багатымі карункамі. Маем надзею, што хутка гледачы змогуць пабачыць новыя касцюмы „Каласкоў", а пакуль што — першы экземпляр народных убораў „Каласкоў" паглядзі на першай старонцы „Нівы". Касцюмы будуць цудоўныя, каб толькі жанчыны мелі як найменш клопатаў з матэрыяламі ды хапіла цярплівасці і вытрымкі. Жадаем ім поспехаў і чакаем на сцэне.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Люба Гаўрылюк паказвае фартух з касцюма „Каласкоў" ды розныя іншыя вышытыя ёю рэчы.*




**(Працяг са стар. 1)**

размыліць адным лаканічным, ды па-рознаму зразумелым сказам, і вымагае грунтоўнага высвятлення.

Яўген Вапа ў сваім артыкуле ставіць канкрэтнае пытанне (а не абвінавачванне) і ён — малады хлапец, ды яго равеснікі маюць маральнае права дабівацца той праўды, якая непакоіць іх пачуцці і прагу ведаў. Для іх гэта гістарычныя падзеі, што павінны мець толькі адзін аб'ектыўны сэнс.

На наш погляд адназначным высвятленнем справы было б апублікаванне ліста, скіраванага да Міністра асветы з 1971 года (хай сабе і з каментарыем) на старонках „Нівы".

Праўленне Варшаўскага аддзела БГКТ

**Ад рэдакцыі:** Ніжэй друкуем поўны тэкст гэтага пісьма.

Białystok, dnia 28.10.1971 r.

Obywatel Minister
Oświaty i Szkolnictwa Wyższego
Polskiej Rzeczypospolitej Ludowej
**W a r s z a w a**
Al. I Armii Wojska Polskiego

Dotyczy: Nauczania języka białoruskiego.

We wschodnich powiatach województwa białostockiego: białostocki, bielski, dąbrowski, hajnowski, siemiatycki, sokólski oraz m. Białystok w poważnej części lub prawie w całości zamieszkuje białoruska mniejszość narodowa w ilości ponad 200 tysięcy osób.

Dzięki stworzeniu odpowiednich warunków przez władze polityczne i administracyjne PRL, na terenach tych, w roku szkolnym 1970/71 pobierało ponad 11 tysięcy dzieci i młodzieży naukę języka białoruskiego w 163 szkołach podstawowych i w 3 liceach ogólnokształcących.

Obecnie na terenie województwa białostockiego mamy szkoły podstawowe z białoruskim językiem nauczania i szkoły podstawowe z dodatkową nauką języka białoruskiego.

Wskutek zachodzących procesów kulturalno-cywilizacyjnych oraz chęci stworzenia dzieciom uczącym się w szkołach z wykładowym językiem białoruskim lepszych warunków startu do szkół średnich i wyższych od kilku lat w szkołach tych faktycznie nie prowadzi się wszystkich zajęć w języku ojczystym. W porównaniu do szkół z dodatkową nauką języka białoruskiego, szkoły te mają jedynie zwiększoną ilość godzin nauki języka ojczystego (6 godzin tygodniowo).

Zarząd Główny BTSK uważa, że nie zachodzi potrzeba formalnego utrzymywania stanu, który już nie istnieje i proponuje potraktowanie wszystkich szkół, w których naucza się język białoruski jako szkół z dodatkową nauką języka ojczystego z podniesieniem liczby godzin nauczania tego języka do 4 godzin tygodniowo.

Obowiązujący obecnie program nauczania języka białoruskiego nie odpowiada potrzebom dnia dzisiejszego, zdaniem nauczycieli jest przeładowany i przestarzały.

W związku z tym wydaje się celowe dokonanie przez władze oświatowe nowelizacji programu nauczania języka białoruskiego.

Zarządzenie Ministra Oświaty i Szkolnictwa Wyższego z dnia 23 grudnia 1966 r. ustalające tematy uzupeł-

**(Працяг на стар. 6)**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



# „БЕЛАРУСАЧКІ" З ДАШОЎ

**Вакальны калектыў „Беларусачкі" з Дашоў у сёлетнім конкурсе „Беларуская песня 88" для школьнікаў заняў другое месца, раўназначнае з калектывам „Нашы дзеці" з Бельскай школы № 3.**

**У афіцыяльных выніках конкурсу, якія былі пададзены ў „Ніве" („Зорцы") № 25 ад 19 чэрвеня, гэтая інфармацыя была прапушчана. Просім прабачэння. Калектыў сапраўды выступіў цудоўна. І рэдакцыі вельмі прыкра, што наш недагляд напаткаў калектыў, які працуе вось ужо шмат гадоў вельмі салідна і старанна, заўсёды займаючы перадавыя месцы ў нашых конкурсах, і ад пачатку свайго існавання сябруе з „Зоркай". Маю надзею, што гэтая памылка не папсуе нашага сяброўства. Прашу прабачэння ў „Беларусачак" і іх апекуна — настаўніцы Валянціны Дуды.**

**Яніна Чэрнякевіч, фота аўтара.**

# АБ ШКОЛЕ Ў ДУБІЧАХ-ЦАРКОЎНЫХ

Неяк у маі давялося мне пабываць у школе ў Дубічах-Царкоўных.

Вучыцца тут 136 дзяцей. Прыходзяць яны сюды і прыязджаюць з некалькіх навакольных вёсак. Таму вялікай папулярнасцю карыстаецца сярод дзяцей школьная сталоўка. Кожны дзень нарыхтоўвае яна 150 смачных і паўнавартасных абедаў. Дзеці ядуць тут з ахвотай.

Класныя залы ў Дубіцкай школе размешчаны ў двух асобных будынках. Адзін з іх — вельмі ўжо стары. Быў ён пабудаваны да першай сусветнай вайны. Другі, мураваны, — навейшы. У ім памяшчаецца кабінет беларускай мовы. Мову сваіх бацькоў вывучаюць тут усе дзеці. Восем выпускнікоў Дубіцкай школы выказала ахвоту паступаць у Гайнаўскі беларускі ліцэй.

У беларускім кабінеце ў Дубічах дзеці накапілі многа старых рэчаў — найбольш элементаў колішняй вопраткі. Частку з іх, асабліва каштоўную, перадала ў школьную калекцыю сама дырэктар школы Анна Панфілюк. Даўнейшыя ручнікі, вышываныя блузачкі, даматканыя спадніцы ад добрага сэрца падарылі школе бабулі і дзядулі цяперашніх і ранейшых вучняў. У будучыні частка гэтай каштоўнай калекцыі трапіць у зборы Музея беларускай матэрыяльнай культуры ў Гайнаўцы.

Як у кожнай школе, і ў Дубічах ёсць вельмі здольныя вучні. Валя Кораз, для прыкладу, вучаніца 7 класа, заваявала першае месца ў конкурсе мастацкага чытання савецкай прозы і паэзіі ў школе. Затым пераможна прайшла праз раённы і ваяводскі агляды і атрымала права ўдзельнічаць у спаборніцтвах дэкламатараў у Калабжэгу. Рыхтавала яе да конкурсу настаўніца рускай мовы Ірына Бабыля.

Бася Цімафеева, вучаніца 8 класа, выдатна паказала сябе ў гістарычным конкурсе. Яна выраішыла вучыцца ў Гайнаўскім беларускім ліцэі.

Вучні з Дубічаў паспяхова выступілі таксама ў раённым аглядзе школьнай беларускай песні, які адбываўся ў Кляшчэлях.

У рамках міжнароднага прыгранічнага супрацоўніцтва Дубіцкая школа наладзіла кантакт з дзесяцігодкай у Новым Двары Гродзенскай вобласці. У ліпені прадбачваецца ўзаемны абмен 25-асабовымі групамі дзяцей. Навадвораўцы будуць адпачываць у Дубічах-Царкоўных, а дубіцкія школьнікі паедуць у Новы Двор.

У Дубічах прыгожы школьны агародчык. Апякуецца ім

(Працяг на стар. 10)



*Дзяўчаткі з біялагічнага гуртка ў школьным агародчыку.*

# ВЕРШЫ ВІКТАРА ШВЕДА

## ЛЕТА

Лета, лета, наша лета,
Прыгажосць ты заўсягды!
Зямля сонейкам сагрэта
Спеліць восені плады.

Вабяць горы, вабіць мора,
І даліны, і лясы,
Вабяць рэкі і азёры,
Вабяць птушак галасы.

Моладзь школьная пакіне
Свой чарговы родны клас,
Разбрыдзецца па краіне
Адпачыць у летні час.

Па прыгожым цёплым леце,
З нашых гарадоў і сёл,
Вернуцца ізноўку дзеці
Да сваіх любімых школ.

## ЖЫВЕ З НАМІ ЗВЕР З ВУСАМІ

Запыталіся Адама:
— Які звер з рагамі?
Адказаў Адам талкова:
— Напэўна, карова.

— Які, — запыталі Косцю, —
Звярок мае хвосцік?
Тут адказ заўжды аднакі:
— Дамашні сабака.

— Які звер, што жыве з намі,
З доўгімі вусамі?
Адказаў Ясь зухавата:
— Дык гэта ж мой тата.

## ШТО Ж ТАК ЦЕШЫШСЯ, СЫНОК?

Незвычайны меў настрой
Ясь, вярнуўшыся са школы.
Уваходзіў у пакой
З нейкай песняю вясёлай.

— Што ж так цешышся,
сынок? —
Запытаў малога тата.
— Ставілі мяне ў куток,
Ды куткі былі заняты.

## ЭКСКУРСАВОД

Быццам які экскурсавод
Бацька з сынком ідзе праз
горад.
Сынок спытаў: — Што за завод?
— Звычайны, — татачка
гаворыць.

— А гэта, — сын кіўнуў
рукой, —
Скажы, татулька, што за
помнік?
— Дык гэта нейкі наш герой,
Мо зараз прозвішча прыпомню...

— А гэта, татка, вось наўпрост,
Што над прыгожаю ракою,
Як называецца той мост?
— Надрэчны ці мо штось
такое.

— Замучыў я цябе, відаць,
Задаючы пытанняў многа.
— Не будзеш, сынку мой,
пытаць,
Дык не дазнаешся нічога.

## НІНА І ПІЯНІНА

Ніна
Села за піяніна
Іграла хвіліну,
Іграла гадзіну.
А потым ціша
Ніну калыша.
Спіць Ніна
На піяніна.

